


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 23 (205) — Нядзеля 13 чэрвеня 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8

# Жарала камуністычнага імпэрыялізму

Плян эўрапэйскай абароннай супольнасьці, да якога Амэрыка прывязвае вялікую вагу і ўсімі спосабамі націскае на эўрапэйскія дзяржавы з мэтаю ягонае рэалізацыі, ужо чацьвёрты год ня можа скрануцца зь мёртвага пункту. У той час, калі заходняэўрапэйскія дзяржавы, у дадзеным выпадку Францыя й Італія, ня могуць здабыцца на задзіночаньне перад загрозай камуністычнае агрэсыі, даючы перавагу ў сваей палітыцы справам меншае або й зусім малое вагі над праблемамі жыцьцёва найважнейшымі, тры балканскія дзяржавы — Югаславія, Грэцыя й Турэччына выказалі глыбокі палітычны розум і даканалі тое, чаго ня можа зрабіць Заходняя Эўропа. Пайменна, грэцкі прэм'ер маршал Папагос 4 чэрвеня падаў да ведама, што ў выніку нарадаў з прабываючым у Афінах прэзыдэнтам Югаславіі маршалам Ціто пастанавілі яны ператварыць падпісаны перад 16 месяцамі балканскі пакт прыязьні між Югаславіяй, Грэцыяй і Турэччынай на вайсковы абаронны пакт, які мае быць падпісаны ў Белградзе яшчэ ў ліпені сёлета. Падобнае пагадненьне перад гэтым было дасягнутае з Турэччынай падчас візыты маршала Ціто ў Анкары, якая адбылася коратка перад ягонай візытай у Афінах. Такім чынам трэба ўважаць, што Балканскі вайсковы пакт уступіў у вапошнюю фазу рэалізацыі і што ягонае падпісаньне зьяўляецца справай толькі кароткага часу.

Гэты пакт мае вялізарнае міжнароднае стратэгічнае й палітычнае значэньне, таму варта ў гэтых двух аспэктах яго коратка абмеркаваць.

Як ведама, тры ўспомненыя дзяржавы, асабліва Югаславія й Турэччына, маюць узятыя разам большую і лепей вышкаленую армію, чымся ўся Заходняя Эўропа. Усе тры краіны зьяўляюцца паложаныя ў вельмі важным стратэгічным пункце і, на выпадак вайны з Саветамі, яны могуць замкнуць апошнім выхад з Чорнага мора й забясьпечыць увесь Міжземнаморскі прастор і праход да Суэцкага каналу, а Турэччына ў дадатак можа пасьпяхова бараніць паўночную тэрыторыю Ірану, што мяжуе з Савецкім Саюзам. Апрача гэтага, Турэччына зьяўляецца зьвязаная вайсковым саюзам з Пакістанам і гэтым самым належыць ня толькі да абароннай сыстэмы Сярэдняга Ўсходу, але й паўдзённай Азіі. Грэцыя й Турэччына зьяўляюцца сябрамі Атлянтычнага пакту. Югаславія, якая да Атлянтычнага пакту не належыць і ня можа належыць фармальна, як краіна камуністычная, у сілу вайсковага саюзу з Грэцыяй і Турэччынай, гэтым самым пасярэдна ўвойдзе ў сыстэму абароны Атлянтычнага пакту, падобна як Гішпанія, якая з мамэнтам падпісаньня вайсковага саюзу з Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі, уключылася пасярэдна ў гэтую сыстэму. Паколькі тады праект эўрапэйскай арміі ня мог дагэтуль выйсьці із стадыі праекту і вялікае пытаньне, ці наагул ён з гэтай стадыі калі-небудзь выйдзе, дык на іншых важных стратэгічных адрэзках, на адрэзку балканскім і гішпанскім, абаронная палітыка Амэрыкі дасягнула вялікі сукцэс.

Але Балканскі вайсковы пакт мае таксама вялікае палітычнае значэньне.

Як ведама, Турэччына й Грэцыя зьяўляюцца станоўча антыкамуністычнымі дзяржавамі, а ў Турэччыне навет забароненая законам камуністычная партыя. Югаславія-ж таго-ж самага Ціты шэсьць год таму назад, будучы маскоўскім сатэлітам, была выпадовай базай супраць Грэцыі ў ейнай дамашняй вайне, а фактычна ў ейнай камуністычнай рэвалюцыі, успыхнуўшай за інсьпірацыяй Масквы. На югаславянскай тэрыторыі былі арганізаваныя грэцкія камуністычныя банды, зь Югаславіі ішло ў Грэцыю аружжа й амуніцыя. Ад таго часу мінула ўсяго толькі шэсьць год. І вось тая-ж самая камуністычная Югаславія, толькі выйшаўшая з арбіты ўплыву Масквы, сяньня сталася палітычным і вайсковым саюзьнікам Грэцыі й Турэччыны. Ціта быў энтузіястычна вітаны ня толькі ў Турэччыне, але і ў Грэцыі, той Ціта, які нядаўна быў найвялікшым ейным ворагам. Прывітаў яго ня толькі ўрад, але й сам кароль Павал, а жыхары грэцкай сталіцы энтузіястычна маніфэставалі сваю прыязьнь да Югаславіі. Дзяржаўны інтэрас Грэцыі й Турэччыны узяў верх над дактрынальна-ідэялягічнымі розьніцамі, якія існуюць між гэтымі дзяржавамі й камуністычнай Югаславіяй. Дзьве гэтыя балканскія дзяржавы могуць тады служыць прыгожым прыкладам для Францыі, якая больш баіцца сяньня неактуальнай нямецкай небясьпекі, чымся зусім рэальнай, больш грознай і няўхільнай небясьпекі з боку Савецкага Саюзу.

Але заключэньне Балканскага вайсковага пакту мае яшчэ адзін, можа найважнейшы палітычны аспэкт. Як доўга Югаславія была сатэлітам Масквы й выконвала загады Крэмля, так доўга праводзіла яна савецкую імпэрыялістычную палітыку. Калі-ж тая самая Югаславія выйшла з пад маскоўскага ўплыву, дый, ня перастаючы быць краінай камуністычнай, патрапіла ня толькі навязаць супрацоўніцтва з антыкамуністычным Захадам, але й прыступіць да ягонай вайсковай сыстэмы, скіраванай супраць расейскага камунізму й іншых камуністычных краінаў, што знаходзяцца на ўслугах Масквы. Мы далёкія ад таго, каб захопліваўцца нацыяналкамунізмам югаславянскага тыпу. Наадварот, мы зьяўляемся станоўчымі праціўнікамі ўсякай таталітарнай антыдэмакратычнай сыстэмы, выступаем супраць усякай сыстэмы паняволеньня, у тым ліку й супраць нацыяналкамунізму. Сьцьвярджаем толькі на прыкладзе Югаславіі факт, што ідэялягічная дактрына камунізму сама ў сабе яшчэ не зьяўляецца жаралом агрэсыўнага імпэрыялізму, паколькі яна не зьяўляецца падпарадкаванай Маскве. З другога боку гэта ёсьць вымоўным доказам, што савецкі імпэрыялізм і ягоная канчальная мэта — запанаваньне над цэлым сьветам выплывае ня столькі з камуністычнай дактрыны аб няўхільнасьці й неабходнасьці сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, сколькі з традыцыйнай расейскай захопніцкай палітыкі, з духа расейскай гісторыі, з псыхалёгіі расейскага народу. Расейскі камунізм пад сваей інтэрнацыянальнай формай і інтэрнацыянальнай фразэалёгіяй хавае расейскі нацыянальны зьмест. Савецкая імпэрыялістычная палітыка, палітыка захопніцтва, дывэрсіяў, інфільтрацыі й вераломства навонкі і палітыка дэспатызму, фізычнага й маральнага тэрору ўнутры краіны зьяўляецца толькі ўдасканаленай копіяй палітыкі расейскіх цароў на працягу стагодзьдзяў, а значыцца зьяўляецца расейскай нацыянальнай палітыкай. А ўсе тыя сатэліты Масквы і ўсе камуністычныя партыі Захаду, якія зьяўляюцца сьлепа ёй падпарадкаваныя, сьвядома ці несьвядома служаць не камуністычнай дактрыне, як такой, але спрадвечнаму расейскаму імпэрыялізму, які з камуністычнай ідэялёгіяй ня мае нічога супольнага. Небясьпека для ўсяго сьвету і загроза заходняй цывілізацыі ляжыць не ў ідэялягічнай дактрыне камунізму, але ў расейскім нацыянальным гоне да бесьперапынных імпэрыялістычных падбояў з мэтаю запанаваньня над сьветам. Пакуль да такога сьцьверджаньня й пераканаьня ня дойдзе вольны сьвет і ў залежнасьці ад гэтага ня зрэвідуе сваей антыкамуністычнай палітыкі, датуль абарона перад камуністычнай агрэсіяй будзе аставацца бяз эфэкту.

**(-іч)**

# Памер Аўген Гегечкоры

**У суботу 5 чэрвеня сёлета памёр у Парыжы Аўген Гегечкоры, былы міністар замежных справаў Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі, былы сябра 3-яй і 4-ай дзяржаўнай Думы, які, пасьля сьмерці ў Парыжы Прэзыдэнта Грузіі Ноя Жорданія 12 студзеня 1953 году, выконваў далей ягоныя абавязкі.**

**Аўген Гегечкоры нарадзіўся ў Салхіно (Заходняя Грузія) ў 1882 годзе. Скончыў юрыдычныя студыі на Маскоўскім унівэрсытэце, перад першай сусьветнай вайной працаваў адвакатам. Ён належыў да Грузінскай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі. У 1917 годзе быў старшынёю Краёвага Цэнтру рэвалюцыйных арганізацыяў на Каўказе. Пасьля ўпадку незалежнай грузінскай дзяржавы ў выніку падбою й акупацыі яе Саветамі, Аўген Гегечкоры быў змушаны выэміграваць заграніцу.**

**Зь Нябошчыкам зыйшоў у магілу адзін з найвызначнейшых грузінскіх нацыянальных і палітычных дзеячоў на эміграцыі — здольны палітык і дзяржаўны муж. Ён быў шчырым прыяцелем беларускага народу й на эміграцыі супрацоўнічаў з органамі Рады БНР. Быў ён такасама адным з закладчыкаў Парыскага Блёку й актыўным ягоным дзеячам, ня мала прычыняючыся да кансалідацыі й каардынацыі дзеяньняў нерасейскіх эміграцыяў з Савецкага Саюзу. Аб Нябожчыку зьмесьцім абшырнейшы артыкул у наступным нумары нашае газэты, а таксама адсылаем да нумару 38 за 27. 9. 1953 г., у якім была надрукаваная ягоная біяграфія разам з артыкулам «Грузія й ейная слаўная мінуўшчыня».**

**Грузінскай эміграцыі з прычыны сьмерці ейнага нацыянальнага й палітычнага Правадыра выражаем нашае глыбокае спачуваньне.**

# Новае перасяленьне народау

Тое, што сяньня робіцца ў Савецкім Саюзе ў галіне сельскае гаспадаркі, і зьвязаныя з гэтым экспэрымэнты, павінна асабліва зьвярнуць на сябе нашую ўвагу. Там дзеяцца рэчы нязвычайныя, якія сваім размахам і ступеняй экспэрымэнтаваньня нічым ня ўступаюць прымусовай калектывізацыі трыццатых гадоў. Ёсьць дастаткова дадзеных, што ў Савецкім Саюзе людзі ўжо галадаюць у літаральным значэньні гэтага слова, і існуюць выразныя прагнозы, што савецкая імпэрыя стаіць на парозе катастрофы голаду. Падобна як калектывізацыя выклікала ў свой час масавы голад у цэлым Савецкім Саюзе, які найцяжэй быў прыціснуў якраз прадуцэнтаў хлеба — калгасьнікаў, гэтак і цяпер праведзеная 2—3 гады таму назад Хрушчовам акцыя ўзбуйненьня калгасаў, званая калектывізацыяй нумар два, вывяла з раўнавагі савецкую сельскую гаспадарку.

Не падлягае сумліву факт, што ўзбуйненьне калгасаў і тварэньне г. зв. аграгарадоў было выкліканае ня столькі прычынамі эканамічнымі, сколькі чыста палітычнымі. Да ўзбуйненьня калгасы як ніяк тварылі сельскагаспадарскія каапэратывы, а калгасьнікі, маючы свае прысялібныя надзелы, усё-ж такі ня перасталі быць сялянамі, ня вызбыліся собсьніцкай сялянскай псыхалёгіі. Гэтую псыхалёгію партыя пастанавіла выкараніць і перарабіць калгасьніка-селяніна на сельскагаспадарскага работніка-парабка, а калгас-каапэратыву на хвабрыку сельскагаспадарскіх прадуктаў.

Як паінфармаваў сакратар цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Беларусі М. Патолічаў на VIII партыйным пленуме, які адбыўся 24-28 студзеня 1952 г., асноўны працэс узбуйненьня калгасаў у Беларусі праводзіўся ўжо на працягу 1950 году. Ён сьцьвердзіў, што «на базе 9.770 дробных калгасаў, якія былі ў усходніх акругах на 1 студзеня 1950 году, к сучаснаму мамэнту (г. зн. на 15 лютага 1951 г. — Ст. К.) створана 3.228 аб'яднаных калгасаў.» Тады-ж «пачалося ўзбуйненьне калгасаў і ў заходніх акругах рэспублікі, дзе на базе 1.472 дробных калгасаў створана 624 аб'яднаныя калгасы» («Зьвязда» за 15 і 16 лютага 1951 г.). Такім чынам у ўсходніх акругах БССР на адзін узбуйнены калгас у сярэднім прыпадаюць тры дробныя калгасы, а ў заходніх акругах — два й адна трэйцяя. Само сабой зразумела, што такое мэханічнае ўзбуйненьне сельскагаспадарскіх адзінак — калгасаў пры нястачы кваліфікаванага агранамічнага й тэхнічнага пэрсаналу, пры савецкім арганізацыйным балагане ды пры дрэннай і недастатковай мэханізацыі сельскагаспадарскае працы мусіла выклікаць раптоўны ўструс у цэлым сельскагаспадарскім працэсе, які ў сваю чаргу пацягнуў за сабой новы хаос, а тым самым і раптоўнае зьніжэньне сельскагаспадарскай прадукцыі.

Загроза голаду сталася няўхільнай.

На колькі палажэньне сталася грозным, сьветчаць розныя сьпешныя мерапрыемствы савецкіх верхаводаў пасьля сьмерці Сталіна, накіраваныя на тое, каб неяк выйсьці зь бязвыхаднай сытуацыі. Пры жыцьці Сталіна савецкі апарат дзеіў спраўна, а ўся савецкая сыстэма была непарушнай. Таму бальшавікі нічога сабе не рабілі з таго, што шырокія масы насельніцтва сыстэматычна не даядаюць, а то й проста галадаюць. Пасьля сьмерці дыктатара савецкая машына мусіла ў сілу новай сытуацыі захістацца. Трэба было карміць насельніцтва ня толькі абяцанкамі, але й хлебам. У сувязі з гэтым і пачаліся ўсякія мерапрыемствы й экспэрымэнты, каб катастрофу прынамсі як мага зьменшыць, калі яе ўнікнуць зусім ня ўдасца.

Адразу пасьля сьмерці Сталіна, ад сакавіка да жніўня 1953 году, у савецкай палітыцы праводзілася лінія Маленкава, калі ўзапраўды наступіла некаторае палепшаньне ў забясьпечаньні насельніцтва прадуктамі харчаваньня. Дзеля гэтай мэты былі скарыстаныя часьць запасаў, старанна магазынаваных на загад Сталіна, імпарт з сатэлітных краінаў і з за зялезнай заслоны, куды былі кінутыя значныя запасы савецкага золата галоўна на закуп прадуктаў харчаваньня.

**МЕСЯЦ ЛІПЕНЬ - МЕСЯЦАМ БЕЛАРУСКАЕ КНІЖКІ.**
**НАГА БЕЛАРУСА ДАЦЬ СКЛАДПАЧЭСНЫМ АБАВЯЗКАМ КАЖКУ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БЕЛАРУСКАЕ КНІЖКІ.**

8 жніўня Маленкаў выступае з сваей аптымістычнай прамовай, у якой патэтычна заяўляе, што існуе «ненарушны харчовы фонд» і што разьвіцьцё дабрабыту на будучыню зьяўляецца ўжо толькі справай палепшаньня арганізацыі распадзелу.

Але Хрушчоў у сваей прамове на верасьнёўскім пленуме 1953 г. цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі быў змушаны падаць такія жахлівыя факты, якія паказалі, што аптымізм Маленкава, які запэўніваў на працягу трох год радыкальна падняць жыцьцёвы стандарт савецкага насельніцтва й забясьпечыць яго ўсім патрэбным, зьяўляецца толькі прапагандовым блефам. Ён сьцьвердзіў катастрафальны стан жывёлагадоўлі, паказваючы яго ўжо не ў працэнтах, як звычайна практыкуюць савецкія статыстыкі, але ў вабсалютных лічбах. Пайменна ён падаў, што сяньня ў Савецкім Саюзе пагалоўе быдла на 3.500.000 штук ніжэйшае ад передваеннага, а на 8.900.000 штук ніжэйшае ў параўнаньні з 1928 годам (канец нэпу), ня гледзячы на тое, што насельніцтва цяпер у СССР у сувязі з натуральным прыростам і анэксіяй новых тэрыторыяў значна павялічылася. Толькі ў 1953 годзе пагалоўе быдла зьменшылася больш чым на 2 мільёны штук. Але згодна дэмагагічнага прынцыпу, што «няма тэй крэпасьці, якой ня ўзялі-б бальшавікі», Хрушчоў, як і Маленкаў, запэўніў, што на працягу 2-3 год наступіць радыкальная папраўа, бо толькі ў наступным, 1954 годзе, жывёлагадоўля дасягне стану: 65.900.000 штук быдла, 34.500.000 нерагатай жывёлы і 14.400.000 штук авечак і козаў.

Дзеля дасягненьня прыабяцанага палепшаньня ў наступных месяцах праводзіцца рэарганізацыя кіраўніцтва калгасаў і ўзмоцненая акцыя выганяньня з гарадоў аграномаў і зоотэхнікаў для працы ў калгасах. З гэтымі мерапрыемствамі, далёка не радыкальнымі, ідзе ў пары крыклівая прапагандовая кампанія на мітынгах і сходах, у прэсе й радыё за павышэньне ўзроўні сельскае гаспадаркі, якая мае на мэце ня толькі заахвоціць калгасьнікаў да больш выдайнай працы, але й тое, каб выклікаць ураженьне гэтай шуміхай, што ў галіне палепшаньня матарыяльнага быту ўзапраўды нешта робіцца.

Аднак у студзені сёлета аказалася, што дагэтуль «ненарушальная збожжавая

**(Заканчэньне на 3-ай балоне)**

# Новая хваля „дабравольных“ перасяленьняў

Менскае радыё 6 чэрвеня перадало камунікат наступнага зьместу:

«Аддзел Перасяленьня Сельскай Гаспадаркі Менскай Абласной Управы даводзіць да ведама, што ў 1954 годзе праводзіцца перасяленьне на дабраахвотных пачатках сем'яў калгасьнікаў і іншага насельніцтва Менскай вобласьці ў Карэла-Фінскую ССР, Молатаўскую, Томскую, Комі-Марыйскую вобласьці й Краснаярскі край для работы ў лясной прамысловасьці, у саўгасах і калгасах. Тыя, што перасяляюцца, забясьпечваюцца: бясплатным праездам да месца пасяленьня, выдаецца аднаразовая грашовая дапамога ў разьмеры 600 да 1.000 рублёў на галаву сям'і і ад 200 да 300 рублёў на кажнага сябру сям'і ў залежнасьці ад вобласьці пасяленьня. Сем'і перасяленцаў на новым месцы жыхарства забясьпечваюцца кватэрамі і надзяляюцца прысялібнымі ўчасткамі. На індывідуальнае будаўніцтва і набыцьцё жывёлы ў месцы пасяленьня выдаецца доўгатэрміновы крэдыт. Перасяленцам у месцах пасяленьня прадстаўляюцца ільготы ў галіне сельскагаспадарскага падатку і падаходнага падатку. Даведкі аб умовах перасяленьня можна атрымаць у Райвыканкоме па месцу жыхарства і ў Ваддзеле Перасяленьня Абласной Управы Сельскай Гаспадаркі паводля адрасу: горад Менск, Пляц Свабоды 2, пакой 13, тэлефон 254 85».

Гэты кароткі камунікат гаворыць, аднак, вельмі шмат. Зь яго даведваемся, што, апрача масавых «дабравольных» перасяленьняў Беларусаў на асваеньне пустынных раёнаў Уралу, Сібіру й паўночнага Казахстану, распачалася цяпер новая хваля такога-ж «дабравольнага» перасяленьня ў Карэла-Фінскую ССР і іншыя акругі далёкай Поўначы. Аб масавасьці й цяглясьці перасяленскай акцыі вельмі добра сьветчыць факт, што, як відаць із зьмешчанага камунікату, пры Абласных Управах Сельскай Гаспадаркі, — а, думаем, таксама й пры раённых — існуюць спэцыяльныя «аддзелы перасяленьня». Тыя «прывілеі», якімі цешаць савецкія ўлады перасяленцаў на месцы новага пасяленьня, у запраўднасьці зьяўляюцца вельмі сумліўнымі й выглядаюць на пустыя абяцанкі. Бо вось навет у афіцыйным камунікаце адна супярэчнасьць. Там гаворыцца, што «сем'і перасяленцаў на новым месцы жыхарства забясьпечваюцца кватэрамі і надзяляюцца прысялібнымі ўчасткамі». А пару слоў ніжэй сказана: «На індывідуальнае будаўніцтва і набыцьцё жывёлы ў месцы пасяленьня выдаецца доўгатэрміновы крэдыт». Дык паўстае пытаньне: забясьпечваюцца «сем'і перасяленцаў кватэрамі» ці не? Вымоўным ёсьць яшчэ адзін пункт камунікату. У ім пайменна гаворыцца, што перасяленьне будзе праводзіцца «на добраахвотных пачатках». Такое бальшавіцкае запэўненьне ўжо сваёй сутнасьцю ёсьць больш чым падазроным. У Саветах усё праводзіцца толькі «дабравольна». Прыкладам, калектывізацыя, найвялікшае зло для сялянства, таксама праводзілася выключна «дабравольна». Але нікому не сакрэт, колькі гэтая «дабравольнасьць» каштавала людзкіх жыцьцяў, зьлёзаў і няшчасьцяў.

# Палітыка разгону

Крэмль ужо ад даўжэйшага часу мае выпрабаваныя спосабы перасьледваньня нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу й вынішчаньня іхнага нацыянальнага патэнцыялу. Побач зь дзяржаўнымі забаронамі праяваў беларускага нацыянальнага жыцьця, тэрорам МВД, прымусовай русыфікацыяй і цэлым радам іншых мерапрыемстваў, накіраваных на вынішчэньне й аслабленьне нацыянальных патэнцыяў нерасейскіх народаў і іхнюю русыфікацыю, Масква сыстэматычна праводзіць прымусовыя й г. зв. «дабравольныя» высяленьні й перасяленьні Беларусаў зь іхнай роднай зямлі ў далёкія чужыя краі, дзе нашыя людзі, расьцярушаныя сярод этнічна чужога элемэнту, у сілу фактаў зьяўляюцца паддадзеныя шыбкай асыміляцыі. Гэткім спосабам Масква аслабляе непажаданы ёй і небясьпечны для ейных плянаў нерасейскі элемэнт, на месца якога насылае карэнных Расейцаў або, у меншай меры, зрусыфікаваных «нацменаў».

Найбольш трагічнай аказалася такая палітыка разгону для малых народаў Савецкага Саюзу. Зь імі Масква ня мае асаблівых клопатаў: мабілізуецца цэлая армія МВД, акружае населеныя пункты і на працягу аднаго-друх дзён усё насельніцтва заладоўваецца на таварныя цягнікі і вывозіцца ў няведамым для яго кірунку, а тыя, што ставяць супраціў, расстрэльваюцца на месцы. Гэткі трагічны лёс спаткаў насельніцтва Чэчэна-Інгускай аўтаномнай рэспублікі, крымскіх Татараў, Калмыкоў і Немцаў. Паволжа пад канец апошняй вайны. Падобная палітыка праводзіцца, хоць і паступова, і ў дачыненьні да малых народаў Прыбалтыкі: Летувісаў, Латышоў і Эстонцаў. Такія жахлівыя й ня маючыя сабе прыкладаў у гісторыі акты гэносыдызму зьяўляюцца першым вынаходам чырвонае Масквы.

Але тое, што можна даканаць з народамі малымі, нельга зрабіць з народамі вялікімі. Калі першых можна высяліць і разагнаць па нязьмераных прасторах Сібіру адным замахам на працягу кароткага часу, дык зрабіць гэтага з народамі вялікімі нельга зь дзьвюх прычынаў: а) немагчыма тэхнічна адразу перасяліць некалькі ці некалькі дзесяткаў мільёнаў людзей; б) такое перасяленьне, прыкладам, Беларусаў ці Ўкраінцаў не магло-б прайсьці незаўважана ў сьвеце й выклікала-б вялікую хвалю абурэньня, што ў сваю чаргу шкодна адбілася-б на савецкай замежнай прапагандзе. Таму ў дачыненьні да гэтых народаў бальшавікі выкарыстоўваюць усякія нагоды, каб праводзіць акцыю перасяленцаў паступова, неўзаметку і пераважна «дабравольна».

На Беларусі сяньня адбываецца ўжо пятая хваля такіх масавых перасяленьняў і высяленьняў, калі ня браць пад увагу дробных «дабравольных» перасяленьняў на Камчатку. Сахалін, Сібір, якія праводзяцца сыстэматычна.

Першая хваля такога разгону, пры гэтым узапраўды масавага й для беларускага народу асабліва балючага, пракацілася па ўсей Усходняй Беларусі ў пэрыяд прымусовае калектывізацыі трыццатых і наступных гадоў і кампаніі «ліквідацыі кулацтва, як клясы». Ахвярамі гэтага разгону сталіся ня толькі багацейшыя сяляне, што ўзапраўды падпадалі пад савецкае абазначэньне «кулакоў, але і ўсе тыя бяднейшыя і навет бедныя сяляне, ведамыя ў савецкай тэрміналёгіі, як «серадня́кі» і «бедня́кі», якія супраціўляліся калектывізацыі і былі аднесеныя да катэгорыі «падкулачнікаў» і «кулацкіх падгалоскаў» ці «кулацкіх падпявалаў» (афіцыяльныя савецкія тэрміны). Уся гэтая маса тварыла сабой найбольш прагрэсыўны і нацыянальна сьведамы ды нацыянальна актыўны слой беларускага сялянства. Усё яно было прымусова выселенае з родных земляў з канфіскацыяй маемасьці, і тым самым нацыянальная патэнцыя беларускага народу была значна аслабленая.

Другая хваля масавага разгону, і гэтым разам афіцыяльна прымусовага, мела месца ў Заходняй Беларусі ў 1940—1941 г. г., калі адбыліся адна за аднэй тры фазы прымусовых вывазаў «варожага элемэнту» на апанаваных бальшавікамі тэрыторыях Заходняе Беларусі. Побач з польскімі чыноўнікамі, памешчыкамі, асаднікамі ды паліцыяй, былі вывезеныя дзесяткі тысячаў і Беларусаў: сялян, западозраных у супрацоўніцтве з польскай паліцыяй, — а такія западозраньні грунтаваліся пераважна на даносах, — усіх ляснікоў і значную колькасьць інтэлігенцыі.

Трэйцяя хваля разгону прайшла па ўсей Беларусі ў вапошняй фазе другой сусьветнай вайны і адразу пасьля ейнага заканчэньня. Яна ахапіла людзей, што знаходзіліся пад падазрэньнем супрацоўніцтва зь Немцамі. За праступнікаў і кандыдатаў да вывазу ўважаліся навет тыя жанчыны, што за аплату, каб зарабіць на кусок хлеба ў галодныя ваенныя гады, мылі нямецкім жаўнерам бялізну. Пад гэтую катэгорыю падпала і тая мільённая маса Беларусаў, што былі прымусова вывезеныя на працу ў Нямеччыну і пасьля вайны рэпатрыяваліся. Усе яны, як «изменники родины», былі арыштаваныя й разагнаныя па ўсходніх і паўночных пэрыяфэрыях Савецкага Саюзу або накіраваныя ў лягеры прымусовае працы для ўстанаўленьня разрушанай вайною індустрыі.

Наступная, чацьвертая хваля масавага разгону, датычыла Беларусаў, пераважна каталікоў і пераважна з Заходняй Беларусі, якія ўзапраўды дабравольна пакінулі сваю бацькаўшчыну. Як ведама, пасьля таго, калі Польшча сталася ваеннай здабычай Савецкага Саюзу, было дасягнутае між Масквой і Варшавай пагадненьне, што ўсе Палякі, пражываючыя ў Беларусі, маюць права перасяліцца ў Польшчу. З гэтай нагоды скарыстала мноства Беларусаў каталіцькага веравызнаньня і часткава праваслаўнага, якія, падаючы сябе спэцыяльна Палякамі, стараліся перасяліцца на польскія «земе одзысканэ» ў надзеі, што гэтым уратуюцца перад бальшавіцкім перасьледваньнем і няшчасьцем калектывізацыі. Было-б наіўным думаць, што савецкія ўлады не арыентаваліся, што гэта ніякія Палякі, але Беларусы. Ня гледзячы на гэта, яны, як ведама, не рабілі ніякіх перашкодаў у іхным перасяленьні. Прычына ясная: лепш хай гэтыя Беларусы расплывуцца сярод Палякаў і спалянізуюцца, але затое беларускі народ нацыянальна аслабне, тым больш, што на месца тых, якія перасяліліся ў Польшчу, можна прысылаць і пасяліць карэнных жыхароў Расеі. Агульна аблічаецца, што гэткім чынам каля аднаго мільёна Беларусаў перасялілася ў Польшчу. Ня выключана, што гэтая колькасьць трохі пераўвялічаная, тым ня меней яна ўсё-ж такі высокая.

Сяньня зьяўляемся сьветкамі новай, ужо пятай, хвалі перасяленьня Беларусаў, і гэтым разам таксама «дабравольнага». Сёлета вясной партыяй і ўрадам быў абвешчаны гігантычны плян асваеньня для сельскае гаспадаркі вялізарных пустынных і незаселеных прастораў Сібіру, Алтаю, Уралу й паўночнага Казахстану, куды Саветы маюць перасяліць каля 10 мільёнаў людзей. Гэтае перасяленьне ўжо пачалося вясной сёлета і прадаўжаецца далей. Гэтыя «дабравольныя» перасяленцы галоўным чынам рэкрутуюцца зь Беларусаў і Ўкраінцаў. Прэса савецкай Беларусі і ўвесь прапагандовы апарат праводзяць цяпер ударную кампанію, якая мае заахвоціць да перасяленьня, і прыносяць шмат канкрэтных вестак, што ўжо вялікая колькасьць Беларусаў і Украінцаў перасялілася.

Але ня скончылася яшчэ гэтая акцыя перасяленьняў, як распачалася ўжо новая. На іншым месцы гэтага нумару друкуецца камунікат Аддзелу Перасяленьня Менскай Абласной Управы Сельскай Гаспадаркі аб тым, што распачатае «дабравольнае» перасяленьне Беларусаў у Карэла-Фінскую ССР і іншыя паўночныя акругі на лясныя работы і на работы ў саўгасах і калгасах. Мы ня цумаем, што гэтая перасяленская кампанія праводзіцца толькі ў Менскай акрузе, яна бясспрэчна абыймае ўсю Беларусь. а толькі дзякуючы прыпадку нам стаўся ведамым такі камунікат якраз зь Менскай акругі. З камунікату яшчэ даведваемся, што пры Абласных Управах Сельскае Гаспадаркі БССР існуюць спэцыяльныя «аддзелы перасяленьня». Думаем, што такія аддзелы існуюць і пры раённых управах. Наяўнасьць гэтых аддзелаў паказвае, што перасяленьне зьяўляецца ўзапраўды масавым, калі спатрэбілася для гэтага тварыць спэцыяльныя ворганы.

Гэтак Масква, шляхам прымусовых і «дабравольных» перасяленьняў і высяленьняў Беларусаў, рэалізуе прынцыпы сваей нацыянальнай палітыкі: як мага больш высяліць Беларусаў зь іхнае бацькаўшчыны, а на іх месца пасяліць Расейцаў ці зрусыфікаваных Манголаў, каб перамяшаць з нацыянальнага глядзішча насельніцтва Беларусі і аслабіць беларускія нацыянальныя патэнцыі. Па першае, маем тут справу з традыцыйнай маскоўскай палітыкай русыфікацыі, якую зь зялезнай пасьлядоўнасьцю праводзяць бальшавікі. Пад удар русыфікацыі тут падстаўленыя і выселеныя ці перасяленыя Беларусы, бо Беларус у Казахстане не пашле сваіх дзяцей у казахстанскую школу, але толькі ў расейскую, і таксама тыя Беларусы, што асталіся на бацькаўшчыне, сярод якіх будзе ўзмоцнены у выніку насяленьняў расейскі элемэнт. Па другое, Масква рэалізуе й сваю стратэгічную палітыку. Савецкі Саюз, прыгатаўляючыся гарачкава да агрэсыўнае імпэрыялістычнае вайны, стараецца пазбавіцца із сваіх акраінаў непажаднага й ненадзейнага для сябе элемэнту, якім зьяўляюцца Беларусы і іншыя паняволеныя нерасейскія народы Савецкага Саюзу.

**Алесь Крыга**

# Сьлізкі шлях Хрушчова

Нядаўны перадавы артыкул «Праўды» і раптоўная паездка Хрушчова ў Казахстан сьветчаць аб тым, што намаганьні савецкага ўраду падняць ураджайнасьць збожжа не даюць чаканых вынікаў. Такі выснаў зрабіў незалежны ангельскі тыднёвік «Тайм энд Тайд».

Газэта адзначае, што пасьля сьмерці Сталіна ягоныя наступнікі запэўнілі савецкіх грамадзян, што павысяць вытворчасьць зернявых культур шляхам рэарганізацыі калгаснай сыстэмы. Выкананьне гэтай нязвычайна цяжкай задачы узяў на сябе Хрушчоў. Ён прыйшоў да вываду, што посьпех залежыць ня толькі ад павышэньня ўраджайнасьці, але яшчэ ў большай меры ад пашырэньня пасеўных прастораў. Таму Хрушчоў пастанавіў вывесьці зь сьляпога завулка заняпалую сельскую гаспадарку шляхам асваеньня трынаццаці мільёнаў гэктараў цаліны і пустынных земляў, галоўным чынам у паўночным Казахстане й Сібіры. Дзесяткі тысячаў моладзі былі накіраваныя ў усходнія раёны на працы для апрацоўкі гэтых земляў.

Аднак ужо ў пачатку траўня сёлета «Праўда» трывожна адзначыла, што ў гэтым годзе ў Казахстане значна меней засеена зернявых культур, чымся ў мінулыя гады. «Праўда» абвінавачвала мясцовыя ўлады ў тым, што сельскагаспадарскія машыны ня выкарыстоўваюцца ў працы дзеля адсутнасьці запасных частак. Запраўднага становішча ў раёнах асваеньня цаліны «Праўда» ня выяўляла. Тысячы моладзі, якія паехалі туды на працу, не знайшлі там самых наабходных умоваў для жыцьця. Замест таго, каб заняцца працай дзеля пашырэньня прастораў пасеваў зернявых

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

# Новае перасяленьне народау

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

база», якой цешыў савецкае насельніцтва Маленкаў, далёка нявыстарчальная, каб уратавацца перад голадам, што гэты голад заграждае яшчэ ў бягучым годзе. У сувязі з гэтым савецкая прапаганда перастала трубіць аб павялічэньні пагалоўя быдла, а занялася выключна хлебам, гэтым аснаўным прадуктам выжыўленьня савецкага чалавека. У студзені й лютым сёлета адбылося ў Крэмлі рад зьездаў і нарадаў, прысьвечаных сельскай гаспадарцы, у якіх прынялі ўдзел прадстаўнікі з усяго Савецкага Саюзу, ды было абвешчана рад дактрынэрскіх пастановаў і рэзалюцыяў, але справа не скранулася зь месца.

Каб знайсьці ўзапраўды радыкальны, хоць і рызыкоўны выхад, партыя і ўрад на прапазыцыю Хрушчова абвяшчаюць у сакавіку сёлета гігантычны плян асваеньня й загаспадараваньня на працягу 1954 і 1955 году вялізарных пустынных прастораў на Сібіры, Урале і паўночным Казахстане. Плян прадбачыць асваеньне для сельскай гаспадаркі 13 мільёнаў гэктараў, г. зн. 130.000 квадратных кілямэтраў незаселеных пустынных прастораў. Калі ўзяць пад увагу вельмі кароткі тэрмін асваеньня і тое, што на гэтых прасторах існуе толькі зямля ды неба, што іх трэба ня толькі абрабіць ды засеяць, але й засяліць ды забудавацца, гэты плян сваім размахам перавышае ўсе Сталінскія пляны «пераўтварэньня прыроды». Няма сумліву, што вялікая доля цяжкай працы будзе ўзваленая на плечы зьняволеных зь лягераў прымусовай працы, тым ня меней работу гэтую ў вясноўным мусяць выконваць «дабравольныя» перасяленцы. Аснаўным ядром гэтых піянэраў мае быць 100.000 камсамольцаў, якіх выдзялілі ўжо савецкія арганізацыі, установы й заводы для «дабравольнага» перасяленьня. Заходнія спэцыялістыя аблічаюць, што для ажыцьцяўленьня гэтага гігантычнага пляну патрэбна што найменей 3 мільёны сельскагаспадарскіх работнікаў, што разам зь іхнымі сем'ямі павінна выносіць каля 10 мільёнаў людзей.

Ужо ў сакавіку сёлета распачалося ў Саветах праўдзівае перасяленьне народаў у пустынныя раёны Сібіру, Уралу й Казахстану. У працэсе гэтай акцыі Крэмль падраконаўску рэалізуе й пастуляты сваей нацыянальнай палітыкі, бо «добраахвотныя» перасяленцы галоўным чынам рэкрутуюцца зь Беларусі і Ўкраіны. На месца переселеных Беларусаў і Ўкраінцаў сюды насылаюцца жыхары этнаграфічных расейскіх тэрыторыяў. Беларуская савецкая прэса амаль у кожным нумары аж захлынаецца ад радасьці, зь якім «энтузіязмам» працоўныя Беларусі спаткалі пастанову партыі і ўраду аб «дабравольным» перасяленьні на асваеньне новых прастораў, як вялікая колькасьць знаходзіцца «ахвотнікаў» перасяліцца, як выконваюць і перавыконваюць нормы тыя, што ўжо перасяліліся.

Ці гэты новы экспэрымэнт выратуе Савецкі Саюз ад галоднай катастрофы, трэба моцна сумлявацца. Тое, што гэтае мерапрыемства праводзіцца з такім гарачкавым пасьпехам, дае падставы думаць, што правал гэтай акцыі будзе няўхільны. Можна лёгка ў савецкіх умовах прымусу перасяліць у ваддаленыя раёны мільённыя масы людзей, можна іх змусіць перавыконваць нормы, але зарганізаваць, як сьлед, гэтай складанай працы, належна яе змэханізаваць пры савецкім балагане, адсутнасьці кваліфікаваных работнікаў і тэхнічных уладжаньняў, ніяк нельга.

Плян асваеньня пустынных раёнаў зьяўляецца, як бачым, апошняй дошкай ратунку перад катастрофай голаду. Усё аднак паказвае на тое, што гэтая катастрофа няўхільная.

**Ст. Крушыніч**

Мне здаецца ўсё, што мала
Пажывеш ты, галубок,
Бо ня любяць сьвет і людзі,
Каб іх тайнасьці пазнаць,
Каб заглянуць у іх грудзі
І зьняць тайнасьці пячаць...
Ну, а што-ж ты мне, старому,
Думаў, хлопчыку, сказаць?
— Тое, дзедку, што нікому, —
Табе толькі можна знаць.
— Дзякуй, хлопча, за увагу,
Надта рады, мой каток?
Сядзь бліжэй, а я прылягу,
Бо штось ные трохі бок...
Эхэ-хэ, брат! адсьпявана
Мая песьня, дый пара —
Ўсё нутро ўжо папсавана,
Чуць трымаецца кара. —
Застагнаў дзед, кладучыся,
Лёг, шчаку рукой падпёр.
— Сьмерць падходзіць, крадучыся,
Як да стада воўк з-за гор...
Ты, Сымон, баішся сьмерці?
— Не!... сапраўды гавару:
Я-б хацеў скарэй памерці: —
Дзед памрэш, і я памру.
— Жыць табе, мой хлопча, трэба:
Ты малы яшчэ, дзіця;
Расквітнее твая глеба,
Прыйдзе час твайго жыцьця...
Уміраць хоча! старэчы!...
Сьмейся з гэтай гаманы!... —
Ды ў той момант дзесь далеча
Ціха бомкнулі званы,
І між імі звон пабіты,
Той надтрэснуты, стары;
Зыкі смуткам апавіты,
Млеюць жаласна ў бары.
— Вось цікава: аб тым звоне
Я й хацеў апавядаць.
— Ну кажы, кажы, Сымоне,
Бо цікава гэта знаць.

**ПЕСЬНЯ АБ ЗВАНОХ**

Гудам-звонам срэбра-медным
Звоняць звоны на званіцы.
Звоняць звоны ў час дзяньніцы,
Надвячэр'ем ясна-бледным,
Звоняць звоны галасныя.
Іх віталі сонца косы,
Агнявыя пасмы-стрэлы;
Нёсься звон іх у сьвет белы,
Плыў іх гоман пад нябёсы
У пустэлі патайныя.
Срэбралітаю расою
Іх віталі краскі, травы,
Промень ясны і ласкавы
У тэй росцы зьзяў красою
І вясёлкам ткаў кароны.
Так званілі тыя звоны.
Між званамі на званіцы
Быў адзін звон нязвычайны,
Меў ён голас рознастайны,
Чараў дзіўныя крыніцы
І размовы нейкай тайны.
І быў сэрцам ён чульлівы.
Срэбраструнны, златагукі,
Успрыймаў ён радасьць, мукі,
То маркотны, то шчасьлівы,
Як пакажа час разлукі,
Як павене міг спатканьня.
І ніколі не маўчалі
Струны-гуды звона тога:
Неба шыр, зямлі разлога,
Залатыя сонца далі
На яго адбітак клалі
Чары дзіўнага сьпяваньня.
Аклікаўся ён і громам
Неба плыні віхрабежнай,
Буры чорнай і мяцежнай
І сьлядком над Божым домам
Ад хмурынкі беласьнежнай.
Ён зьліваўся ў тон суладны
З шумам лісьцяў і травінак
Зь сьпевам красак і былінак,
На ўсё чулы і ўспагадны
І прыемны бы ўспамінак.
А ў час ночы глуха-немы,
Калі месяц блеск свой кіне
У твар ночкавай пустыні,
І пад вэльмам ціхай дрэмы
Зоры высыплюць, бы іней,
Ажываў ён, і чароўна
Гралі струны яго самі,
І іх сьпевам-галасамі
Месяц цешыўся бязмоўна
З хорам зор і небясамі.
А калі званар, бывала,
Залатыя ўзбудзіць струны,
Тады хмарка свае руны
Ніжэй к долу апускала,
Каб сьпявалі ў іх пяруны.
Ды маўчаў прастор бяздонны, —
Навакола ўсё нямела,
Бура ўзьняцца там ня сьмела,
Бо мінута песень звонных
Дабратою сэрцы грэла.
Так званіў ён, так ён клікаў,
Каб пазнаць дабра адзіна,
Каб айцец ня крыўдзіў сына...
Ды для гэтых яго зыкаў
Ня прышла, дзядок, часіна.
Кожны раз, як сьвет зьдзіўлёны
Слухаў сьпеў той з заміраньнем,
Праразьлівым бразгатаньнем
Сьпеў яго глушылі звоны
І сьціхалі з насьмяханьнем.
Ім зайздросна, дзедку, стала,
Што меў дар такі звон гэты,
І што сьвет, у цьму адзеты,
Тая песьня асьвятляла,
Як і сонца сьветліць кветы.
І заглушан быў званамі
Гэты звон, вяшчун прарочы;
Ня трывожыць ён больш ночы
І цьмы, залеглае над намі,
Каб узвысіць лёс сірочы.
У няроўным тым змаганьні
Надарваўся звон чульлівы.
Змоўклі песень пералівы.
Зноў пануе бразгатаньне,
Пустазвонаў клік фальшывы.
І смуткуе звон разьбіты
Аб тых песьнях рознастайных,
Што ў прасторах, у бяскрайных
Зоры слухалі сукрыта,
Каб пазнаць іх сэнс патайны.
Але голас праўды, згоды
Не замрэ ў душы ніколі:
Будзе клікаць ён да волі,
Будзе ў сэрцы жыць заўсёды,
Як той вобраз лепшай долі. —

**IV**

Нікла жыцьце ў шумным лесе,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі ў паднябесьсі
З звонкім крыкам жураўлі.
Восень сьпеў вяла бясконцы,
Зь ветрам ходзячы ў кустох;
Восень прала кужаль тонкі —
Павуціньня белы лён;
Восень шэрыя заслонкі
Моўчкі клала на адхон.
Восень шла ў сырым тумане,
Восень клыгала ўгары,
Восень песьні пела з рана,
Восень ныла ўвечары;
Восень слала дзень свой хмурны
Па падатак у лясы,
Каб на долы, стол хаўтурны,
Там заслаў ёй абрусы.
Ішоў зранку дзень пануры,
Ахінуўшыся ў імглу,
Вочы шэрыя прыжмурыць
І міргне вятру-арлу.
І падыме вецер сьпевы,
Захістаюцца лясы,
І даюць падатак дрэвы,
Лістам сьцелюць верасы.
Адзін верас і красуе,
Там чуваць яшчэ жыцьцё,

# „Прауда аб удзеле Саветау у карэйскай вайне“

Пад такім загалоўкам амэрыканскі ўрад апублікаваў цікавы збор дакумэнтаў аб удзеле Савецкага Саюзу ў карэйскай вайне. Гэтыя дакумэнты поўнасьцю сьцьвярджаюць паза ўсякімі сумлівамі, што карэйская вайна была справай Саветаў і што прыгатаваньні да гэтае вайны распачаліся яшчэ ў 1945 годзе, г. зн. адразу пасьля акупацыі Паўночнай Карэі савецкімі войскамі.

Тады-ж на чале паўночнакарэйскага ўраду Масква паставіла савецкіх грамадзян. Гэтак прэм'ерам і галоўнакамандуючым паўночнакарэйскай арміі стаўся Кім Іль Сунг, савецкі грамадзянін і ахвіцэр чырвонай арміі. Усё, што аб ім афіцыйна ведама, зьяўляецца хвальшывым, ня выключаючы й ягонага карэйскага прозьвішча. Ён прысабечыў сабе прозьвішча забітага ў змаганьні зь Японцамі гэроя Карэі Кім Іль Сунга разам зь ягонымі запраўды вялікімі заслугамі. Цэлы жыцьцяпіс асобы, займаючай становішча прэм'ера й галоўнакамандуючага Паўночнай Карэі, адносіцца да зусім іншага чалавека. Іншыя сябры ўраду Паўночнай Карэі паходзяць таксама з Савецкага Саюзу. Напрыклад, Нам Іль, шэф дэлегацыі Паўночнай Карэі ў Панмунджон і цяперашні шэф паўночнакарэйскай дэлегацыі ў Жэнэве, быў таксама савецкім грамадзянінам і ахвіцэрам чырвонай арміі, адкамандзіраваным потым у Карэю.

У 1948 годзе Масква абвесьціла аб вывадзе савецкіх войскаў з Паўночнай Карэі, каб прымусіць Амэрыку таксама вывесьці й свае войскі з Паўдзённай Карэі. Гэтая тактыка ўкаранавалася пасьпехам, бо Амэрыка, паверыўшы савецкай заяве, узапраўды забрала свае войскі з Паўночнай Карэі. Сяньня аднак сталася ведамым, што савецкія войскі асталіся ў Паўночнай Карэі, якія й прыгатавалі інвазію Паўдзённай Карэі. Вясной 1951 году, на некалькі месяцаў перад выбухам карэйскай вайны, у Паўночнай Карэі прабывала каля 20.000 савецкіх ахвіцэраў і тэхнікаў, якія канчалі прыгатаваньні да інвазіі. Аружжа й ваенныя матарыялы, якія потым папалі ў амэрыканскія рукі, былі выпрадукаваныя ў Савецкім Саюзе ўжо пасьля 1948 году, значыцца не маглі яны быць пакінутыя выводжанымі савецкімі войскамі, але былі прысланыя пазьней якраз для мэтаў інвазіі. Як многа савецкіх ахвіцэраў і тэхнікаў брала ўдзел у карэйскай вайне, сьветчыць факт, што ў вайсковых апэрацыях была ўжываная амаль выключна расейская мова як у вярхоўным галоўнакамандаваньні, так і ахвіцэрамі ў полі, што найлепей сьветчыць аб іхным паходжаньні.

Збор дакумэнтаў гаворыць аб савецкай палітыцы ў Карэі наступна: «Спачатку Расейцы акупавалі Паўночную Карэю. Падчас акупацыі пакінулі краіне рэжым, што складаўся з савецкіх грамадзян карэйскага паходжаньня, маючы пэўнасьць, што гэтыя марыянэткі будуць выконваць савецкую палітыку экспансіі. Калі ўжо было пэўным, што гэты рэжым ужо дастаткова быў сільны, каб заняць цэлую Карэю, пры помачы гэтых марыянэтак распачалі вайну й на працягу трох год вайны давалі ім поўную дапамогу. Калі-ж аказалася, што спроба вайсковага апанаваньня Карэі не ўдалася, зьвярнуліся з прапазыцыяй заключыць перамір'е і ў характары дэлегатаў паўночнакарэйскага ўраду выслалі двух савецкіх грамадзян, каб падпісалі перамір'е».

Гэты збор дакумэнтаў гаворыць толькі аб ролі Савецкага Саюзу і дзеля гэтага абмінае вельмі важную праблему ўдзелу камуністычнага Кітаю ў карэйскай вайне і ягоную ролю ў цяперашнім паваенным пэрыядзе ў Карэі. Як ведама, калі Мэк Артур разьбіў поўнасьцю войскі Паўночнай Карэі, зьбліжаючыся да ракі Ялю, Кітай прыступіў да карэйскай вайны, высылаючы туды сваіх «ахвотнікаў» і гэтым выратаваў камуністычны рэжым у Паўночнай Карэі. Як ведама, на карэйскім фроньце змагалася звыш аднаго мільёну жаўнераў камуністычнага Кітаю. Ня гледзячы на дасягненьне перамір'я, гэтая вялізарная камуністычная армія асталася й да сяньня ў Паўночнай Карэі. З розных даступных дадзеных ведама, што ў Паўночную Карэю, ня гледзячы на забарону ўмовай аб перамір'і, прыходзяць зь Кітаю вялікія транспарты аружжа і рознага роду ваеннага матарыялу, будуюцца лётнішчы, масты і дарогі, разбудоўваюцца порты і адбудоўваецца зруйнаваны ваенны промысл. Дзеля гэтага камуністыя ня ўпускаюць нэўтральнай камісіі дзеля дапільнаваньня перамір'я ў парты Паўночнай Карэі. Сябры гэтай камісіі навет не маглі зьведаць сталіцы Паўночнай Карэі Пуёнг-Янг, ня гледзячы на войстрыя пратэсты швайцарскіх і швэдзкіх сяброў камісіі.

Заняўшы цяпер у Паўночнай Карэі месца Расейцаў, Кітайцы пастанавілі таксама апанаваць індустрыю, гандаль, камунікацыю й эканамічнае ды культурнае жыцьцё краю. Сам па себе бедны Кітай, які сам карыстае з савецкай помачы, празначыў 317 мільёнаў даляраў на адбудову Паўночнай Карэі, значыцца шмат болей, чымся на гэтую мэту выдае Масква. Пры падпісаньні ў гэтай справе пагадненьня, кітайскі прэм'ер Чу-Эн-Ляй асьветчыў, што ад нязьлічоных год лёс Кітаю й Карэі быў цесна зьвязаны і што гэтая блізкая лучнасьць павінна быць утрыманая і ў будучыні. Чу-Эн-Ляй, праўда, сказаў некалькі кампліментаў і пад адрасам Масквы, тым ня менеей нядвузначна даў зразумець, што савецкія інтарэсы ў Карэі зьяўляюцца адносна далёкія, у кажным выпадку не такія цесныя й блізкія, як інтарэсы кітайскія.

Апошнім часам сталася ведамым, што Кітайцы асаджваюць сотні тысячаў сваіх жаўнераў на карэйскіх сельскіх гаспадарках, сьцягваючы адначасна іхныя сем'і. Побач зь імі землі атрымліваюць і кітайскія цывільныя асаднікі. Трэба ведаць, што Паўночная Карэя перад вайной мела 10 мільёнаў жыхароў, з чаго 4 мільёны ўцякло на поўдзень, каля 2 мільёнаў зьгінула падчас вайны, так што ў Паўночнай Карэі асталося цяпер ад 3 да 4 мільёнаў жыхароў. Кітайцы карыстаюць цяпер з гэтага, каб замяніць Паўночную Карэю ў кітайскую правінцыю, заселеную мільёнамі Кітайцаў. Дык становіцца ясным, што Кітайцы ня маюць намеру выйсьці з Паўночнай Карэі, а нешчасьлівае карэйскае насельніцтва з роспаччу ў сэрцы глядзіць, як кітайскія акупанты забіраюць іхную собскую зямлю.

(Паводля артыкулу І. К-скага ў «Дзеньніку Польскім» за 10. 6. 54).

# Сьлізкі шлях Хрушчова

(Заканчэньне з 3-яй балоны)

культур, яны прымушаныя былі аддаваць свае сілы й час на будаўніцтва памешканьняў і забясьпечаньне сябе харчаваньнем. Сярод новых пасяленцаў расьце незадаваленьне з уладаў, якія прыслалі іх на працу ў нязвычайна цяжкія бытавыя ўмовы.

Хрушчоў палічыў патрэбным асабіста наведаць Казахстан. Там на пленуме ЦК камуністычнай партыі Казахстану абгарваліся заданьні распрацоўкі цаліны. Апрача таго ад посьпеху распрацоўкі залежыць рэпутацыя Хрушчова й ягоная палітычная будучыня. Ангельскі тыднёвік падкрэсьлівае, што Маленкаў ухіляецца ад усіх праблемаў сельскай гаспадаркі. Часапіс прыпамінае, што шмат замежных назіральнікаў разглядаюць ролю Хрушчова ў васваеньні новых раёнаў для павялічэньня пасеваў як адзнаку ўзрастаючага ўплыву яго ў савецкай герархіі.

Часапіс аднак адзначае далей, што Маленкаў, відаць, знарок застаецца з боку ад сельскагаспадарскіх справаў: яму трэба захаваць у запасе магчымасьць у сваім часе расправіцца з Хрушчовам, усклаўшы на яго адказнасьць за сарваньне вытворчасьці хлеба, якога савецкая краіна гэтак моцна патрабуе.

З гэтага вынікае, што Маленкаў ня верыць у сельскагаспадарскія пляны Хрушчова. Але-ж правал іх прынясе голад мільёнам людзей! У нармальных умовах трэба было-б старацца гэтаму запабегчы. Аднак, як бачым, ані Маленкаў ані ніхто іншы ня дбае аб небясьпецы голаду. Для бальшавіцкіх верхаводаў ёсьць важнейшай нагода для помсты над сваімі супернікамі, чымся лёс мільёнаў іхных грамадзян.

пс

## ШУКАЮЦЬ

**Брата Мікалая Грыцука, сына Піліпавага,** які нарадзіўся 15. 8. 1925 г. у вёсцы Дуброва, Васілевіцкага раёну, Палескай акругі і пад канец вайны прабываў у Гозэнгайм Бадэн, у Нямеччыне. Весткі слаць на адрас:

Mr. Paul Guz, 241 Lorica Ave, Broadmeadows, Vic. Australia.

★

**Цана пошукаў: 10 фэнігаў за кажнае слова.**

# КАМУНІКАТ

## БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА АНСАМБЛЮ

1. Даводзім да ведама нашых суродзічаў, што ўрэшце выйшлі з прадукцыі дзьве спозьненыя грамафонныя пліткі (большы разьмер). Прычыны спазьненьня былі чыста тэхнічныя. У хуткім часе гэтыя пліткі будуць разасланыя паводля заказаў. Адначасна паведамляем, што з папярэдняга запасу засталося толькі колькі камплетаў, і таму зацікаўленыя мусяць сьпяшацца з заказамі.

2. Прыпамінаем, што ў камплеце ёсьць 8 плітак, зь якіх 6 нармальнага разьмеру (25 цм) і 2 — большага (30 цм). Цана аднае пліткі нармальнага разьмеру — 1 ам. дал.: большага разьмеру — 1.60 ам. дал. Цана поўнага камплету — 9 ам. дал. бязь перасылкі, а зь перасылкай і апакоўкай у заакіянскія краіны — 12 ам. дал.

Пры разасланых плітках большага разьмеру будуць далучаныя разьлікі з паданьнем поўнага кошту ўсіх перасланых дасюль плітак. Пасьля атрыманьня гэткага разьліку ветліва просім урэгуляваць яго неадкладна.

3. Стараньнямі ЦБАА наш Ансамбль насьпяваў колькі **новых плітак, якія ўжо хутка (праз колькі тыдняў) выйдуць з прадукцыі:**

Пліткі 30 цм:

«Дарагая мне старонaчка»,
«Полька Янка»,
«Падняты родны сьцяг дзяржавы» — у вык. хору.

Пліткі 25 цм:

1. «Лявон»,
«Палыночак» — у вык. ведамага баса Пётры Конюха (выйдзе трохі пазьней),

**Рамансы:**

2. «Лявоніха»,
«Каханая» — у вык. мужчынскага дуэту,
3. «Восеньская песьня»,
«І трэба-ж было здарыцца» — у вык. солё.

Музыка першага рамансу А. Туранкова, словы М. Багдановіча. Да апошніх трох музыку напісаў наш ведамы кампазытар Алесь Карповіч на словы С. Ясеня. Гэта рэчы лёгкія да сьпяваньня, і спадзяемся, што яны хоць крыху запоўняць прабел у беларускай музыцы гэтага жанру.

Цана пералічаных плітак гэткая-ж, як і папярэдняй сэрыі, г. зн. 1 дал. за плітку 25 цм і 1.60 дал. за плітку 30 цм.

4. Гэтак-жа хутка выйдзе з прадукцыі плітка **Longplaying з мантажом «Змагарны шлях»** (прыбл. 40 хвілін). Гэта гісторыя змаганьня беларускага народу за незалежнасьць у прыгожай, жывой мастацкай форме, пераплеценая паэзіяй і шматлікімі песьнямі («Не пагаснуць зоркі ў небе», «Арол», «Партызанцкі марш», «Жалобны Марш», «Песьня беларускіх концлягернікаў» і шмат іншых). Яна заменіць шматлікім Беларусам, адарваным ад сваіх асяродкаў, Акадэміі, ладжаныя ў нацыянальныя сьвяты; меншым асяродкам, дзе адчуваецца недахоп мастацкіх сілаў, яна дапаможа ў ладжаньні гэткіх Акадэміяў; урэшце кажнаму Беларусу яна прыпомніць аб велічы нашай Ідэі, аб ахвярах, якіх чакае ад нас Бацькаўшчына.

Папераджаем, што тыраж мантажу надта абмежаны — толькі 100 плітак. Усе заказы перасылаць на адрыс:

Wl. Butrymowicz,
19, Place H. Hoover, LOUVAIN, Belgique.

**Урад ЦБАА**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

## Нашыя Прадстауніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Jurio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
b) **Mr. L. Pašynkouski,** 60 Stawell St. Burnley, Melbourne, Vic., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
**Mr. M. Racycki,** 111 Lindsey Ave, Toronto, Ont.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у пасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**

А той вецер ліст драсуе,
Разьмятае, бы сьмяцьцё.
Глухла поле, замірала,
Як-бы дух пранёсься злы,
І ў задуме пазірала
Даль з-пад шэрае імглы.
Так на дзетак глядзіць матка,
Як расходзяцца яны
Па ўсім сьвеце з роднай хаткі
На мяжы свае вясны.
Нейкім жалем павявала
Ад аголеных палёў,
Ад шнуроў тых, дзе бывала
Нёсься шолах каласоў.
Там цяпер ральля чарнела,
Глызы ўскопанай зямлі,
І пакошу сеткай белай
Павуцінкі заплялі.
Пад агульны смутак гэты
Граў Сымон цяпер адзін,
Граў прашчаньне жыцьцю лета,
Сьпеву-радасьці далін;
Граў разлуку зь дзедкам мілым: —
Дзед ня ўздужаў далей жыць —
Пад крыжом, пад тым пахілым,
Дзедка, друг яго, ляжыць.
Нейк няждана сьмерць скасіла,
Хоць даўно яна, як цень,
Шла за ім, свой міг сачыла
І забрала ў ясны дзень
Пры ўсіх людзях, сярод поля,
Як ён трошкі прыкархнуў;
Згас стары дзядок бяз болю,
Раз ці два адно зяхнуў.
Перацёр век дзед бязродны,
Ціха жыў, цішэй сканаў,
І ніхто ў пясок халодны
Сьлёз гарачых не раняў
І ня плакаў над труною:
Быў пастух — цяпер няма,
І халоднай цішынёю
Агарнула яго цьма.
Толькі ў часе пахаваньня,
Як закопвалі труну,
Горкі смутак разьвітаньня
Ўскалыхнуў душу адну.
— Дзедка, міленькі дзядуня!
На што ты памёр? на што?
Хто-ж мяне цяпер прыгорне?
Хто мне слоўка скажа? хто? —
Прытуліўшысь пад крыжамі,
Ціха хлопчык галасіў;
Стук каменьчыкаў нажамі
Біў яго і дух гасіў . . .
Пахавалі і накрылі,
Бомкнуў звон разы із два,
А на лета на магіле
Быльнік вырасьце, трава.
І цяпер вастрэй Сымонка
Адзіноту ў сэрцы чуў,
Нейкі смутак, бы пялёнка,
Моцна душу агарнуў.
Гляне ён вакол на поле:
Унь там груша, там лясок,
А там жоўценькі пясок,
А дзядка ня ўгледзіш болей,
Ён памёр. І што зь ім стала?
Дзе-ж падзеўся яго дух?
Ці душа ў зямлі прапала,
Як агонь: гарэў — і стух?
Ці яна па сьвеце ходзіць,
Як туман які, адна,
І спакою не знаходзіць
І нікому ня відна?
Сьмерць, жыцьцё . . . Дзіўно ўсё гэта!
І на што жыць? каб сканаць?
Сьмерць прышла і песьня сьпета,
І прылажана пячаць.
І няўжо ня будзе сьледу,
Жыў на сьвеце ты ці не? . . .
Смуткаваў хлапчук па дзеду,
І зь ім бачыўся . . . у сьне.
А багацьце, што дзед справіў
За век доўгі — скрыпку, смык —
Ён Сымону ўсё аставіў.
— Ты — музыка-чараўнік!
Грай-жа, дзеткі: скрыпка важна;
Смутак ты ёй свой вальлеш,
І душа заплача кажна,
Як ты смыкам павядзеш,
Бо хто ў горкай паняверцы
Крыж нясе свой, жывучы,
У таго ў людзкое сэрца
Ёсьць праўдзівыя ключы.
Грай-жа, хлопча, і староga
Ты хоць раз успамяні,
Бо мне жыць, браток, нямнога:
Мае зьлічаны ўжо дні.
З скрыпкай збудзеш сваё гора.
Зь ёю ты ўжо не адзін,
Скрыпка — хлеб твой і апора,
Дык шануй яе, мой сын:
Скрыпка верна ўсім служыла,
Каб і ты ёй верны быў. —
Гаварыў пастух Курыла,
Як духоўніцу рабіў.
І цікава была скрыпка,
Як-бы ў ёй быў хтось жывы:
Многа-сьпеўна, звонна-гібка,
Бы выказвала славы,
Як па струнах смык, бывала,
Ручка здольная вяла;
Добра гэта скрыпка грала
І зьвінела і гула.
Рад быў хлопчык: дар вялікі,
Неспадзеўны то быў дар,
А Сымону лёс музыкі
Усьміхаўся ў сонцы мар.
Ён із скрыпкай неразлучны,
Ня спускае яе з рук,
А ў час вольны і спадручны
Грае і цешыўся хлапчук.
А як часам горка стане
Ці засмуціцца чаго,
Скрыпку ўспомніць — сонца гляне,
Асьвятляючы ўсяго.
І што ён ня чуў-бы толькі,
І пальлецца з-пад смыка
Гоман песьні, віхар полькі,
Вір бурлівы «казака».
— Вось глядзі — музыка новы
І які яшчэ скрыпач!
Спрытны, здатны, адмысловы;
З вузел сам, а ўжо пабач! . . —
На Сымонку і дзяўчаты
Паглядалі цікавей,
Ім пацешыць сэрца ў сьвята
Запрашалі хлапчака.
І Сымонка пад бародку
Дар старога дзеда браў
Ды прысеўшы на калодку,
«Каваля», кадрыля граў.
Спрытна пальчыкі хадзілі,
Смык то плаваў, то лятаў,
Дружна струны гаманілі,
Бы іх віхар калыхаў,
То разгульна і шалёна,
То спакойна, ледзь чуваць . . .
Нават дома на Сымона
Сталі йначай пазіраць.
«Ну, што-ж? хлопец не загіне»,
Маці думала аб ім:
«Можна будзе жыць хлапчыне
Скрыпкай, талентам сваім;
Падзаробіць і на хату,
Дапамогу сваю дасьць,
Хоць ня будзе тае страты,
Хоць малую ўнясе часьць».
Бацька, хоць ня прызнаваўся,
Ды таксама трохі мяк,
Калі часам даставаўся
З-за сынка ўвагі знак.
Ды Сымонка неахвотна
Граў кадрылі, «кавалі», —
Біў ён больш на лад маркотны,
Дзе пакутаю зямлі
Аддаваўся сьпеў гаротны,
Сьлёзы жаласьці цяклі,
І дзе чуўся жаль уцiскі,
Крыўда, гора бедака,
Бо сьвет смутку болей блізкі
Быў для сэрца хлапчука. (Далей будзе)